

# УСЯМЕРНА ЎМАЦОЎВАЦЬ НОВЫ КОЛГАСНЫ ЛАД — ЗАДАЧА ШЭФСКІХ ОРГАНІЗАЦЫЙ

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Калі галоўнай задачай першай пяцігодкі было пабудаваньне фундаманту соцыялістычнай экономікі, то другая пяцігодка зьяўляецца **плянам пабудаваньня** соцыялістычнага грамадзтва ў нашай краіне.

Але зьніштажэньне кляс не абмяжоўваецца зьніштажэньнем паразытычных элемэнтаў. Тут патрабуе вырашэньня больш цяжкая задача—зьніштожыць розьніцу паміж рабочым і селянінам і ператварыць усё працоўнае насельніцтва краіны ў «сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавага грамадзтва».

Зьніштажэньне створанай капіталізмам розьніцы паміж рабочым і селянінам дасягаецца **на аснове колектывізацыі**, шляхам пераходу

ад аднаасобнай гаспадаркі да буйнай аграмаджанай гаспадаркі.

За апошнія гады мы стварылі самае буйнае ў сьвеце земляробства, арганізаваўшы звыш 200 тыс. колгасаў, 5 тыс. саўгасаў і каля $2\frac{1}{2}$ тыс. машына-трактарных станцый, забясьпечаных дасканалымі прыладамі працы.

Другая пяцігодка павінна адыграць рашаючую ролю ў справе поўнага зьнішчажэньня процілегласьцяй паміж горадам і вёскай у нашай краіне. Асноўны зьмест гэтай проблемы зводзіцца да таго, каб сьцерці розьніцу ў тэхнічнай базе індустрыяльнай і земляробчай вытворчасьці, поўнасьцю мэханізаваць сельскагаспадарчую вытворчасьць.

Задача пературварэньня працоўнага насельніцтва ў «сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавага грамадзтва» будзе вырашацца ў **працяглай і часам абвостранай клясавай барацьбе з рэшткамі кулацтва, у барацьбе за зьнішчажэньне дробнаўласьніцкай псыхолёгіі ўчарайшага аднаасобніка.**

Партыя неаднокраць падкрэсьлівала неабходнасьць кіруючага про-

летарскага ўзьдзеяньня на колгасы, папярэджвала аб небясьпецы **ідэалізацыі** колгасаў і колгасьнікаў.

Аб гэтым чотка паставіў пытаньне т. Сталін яшчэ тры гады назад, выступаючы на конфэрэнцыі аграрнікаў-марксыстаў.

**«Было-б памылкова думаць,** — сказаў ён, — **што калі дадзены колгасы, то дадзена ўсё неабходнае для пабудаваньня соцыялізму. Тым больш памылкова было-б думаць, што члены колгасаў ужо ператварыліся ў соцыялістаў. Не, прыдзецца яшчэ шмат папрацаваць над тым, каб перарабіць селяніна-колгасьніка, вытруціць яго індывідуалістычную псыхолёгію і зрабіць з яго сапраўднага працоўніка соцыялістычнага грамадзтва».**

Гэтага ўказаньня правадыра не зразумелі некаторыя парторганізацыі. Замест таго, каб з усёй энэргіяй узяцца за перавыхаваньне селяніна-колгасьніка, узмацніць сваё кіраўніцтва колгасамі, яны парашылі, што калі нам удалося стварыць колгасы, то гэтым самым ужо забясьпечана правільная пастаноўка справы ў колгасах, іх

ДЛЯ ЗАЎВАГ

ператварэньне ва ўзорныя соцыялістычныя гаспадаркі.

Гэты факт пераацэнкі многімі нашымі таварышамі колгасаў як новай формы гаспадаркі падкрэсьліў т. Сталін у сваім выступленьні па дакладзе т. Кагановіча на студзеньскім пленуме ЦК і ЦКК УсеКП(б).

**«Галоўны недахоп, — сказаў т. Сталін,—заключаецца ў тым, што многія нашы таварышы пераацанілі сілы і магчымасьці самых колгасаў як новай формы арганізацыі сельскай гаспадаркі. Яны не зразумелі таго, што колгас сам па сабе, ня гледзячы на тое, што ён зьяўляецца соцыялістычнай формай гаспадаркі, далёка яшчэ не гарантован ад усякага роду небясьпек і пранікненьня ў кіраўніцтва колгасам усякага роду контррэволюцыйных элемэнтаў, не гарантован ад таго, што пры пэўных умовах колгасы могуць быць выкарыстаны антысавецкімі элемэнтамі ў сваіх мэтах».**

І далей т. Сталін указвае:

**«З пункту гледжаньня ленінізму колгасы, як і саветы, узятыя як форма арганізацыі, ёсьць зброя і**

ДЛЯ ЗАЎВАГ

толькі зброя. Гэтую зброю можна пры пэўных умовах накіраваць супроць рэволюцыі. Яе можна накіраваць супроць контррэволюцыі. Яна можа служыць рабочай клясе і селяніну. Яна можа служыць пры пэўных умовах ворагам рабочай клясы і сялянства. Уся справа ў тым, у чыіх руках знаходзіцца гэтая зброя і супроць каго яна будзе накіравана».

Калі раней аднаасобнік сам клапаціўся аб сваёй гаспадарцы, сам адказваў за яе і партыя магла абмяжоўваць сваё ўмяшаньне ў сельскую гаспадарку толькі пасобнымі актамі помачы бедняку і серадняку, то цяпер, калі цэнтр цяжару адказнасьці за вядзеньне гаспадаркі перамясьціўся ад асобных людзей на кіраўніцтва колгасу, калі колгасная гаспадарка як буйная гаспадарка можа весьціся толькі ў парадку плянавага кіраўніцтва — «без сыстэматычнага ўмяшаньня з боку савецкай улады ў справу колгаснага будаўніцтва, без яе сыстэматычнай помачы наладзіць такую гаспадарку немагчыма» (Сталін).

«З гэтага вынікае, што партыя



ДЛЯ ЗАЎВАГ

павінна не паменшыць, а памножыць свае сувязі з колгасамі, што яна павінна ведаць усё тое, што адбываецца ў колгасах, каб у час прыйсьці на помач і папярэдзіць пагражаючыя колгасам небясьпекі».

З гэтых слоў т. Сталіна становіцца зусім відавочным, што ва ўмовах, калі мы атрымалі нябачаныя перамогі соцыялізму ў вёсцы, калі намі створан новы колгасны лад, калі кулацтва разгромлена і падорваны карэньні капіталізму— адказнасьць партыі і рабочай клясы за кіраўніцтва селянінам **ня толькі ня зьніжаецца, але максымальна ўзрастае.**

Перад партыяй і ўсімі пролетарскімі організацыямі ўстае як важнейшая задача на бліжэйшы час— умацаваньне гэтага новага колгаснага ладу.

Тав. Сталін так і кажа:

«Колгасны **лад не памяншае, а павялічвае клопаты і адказнасьць партыі і ўраду ў адносінах разьвіцьця сельскай гаспадаркі».**

**Сёньня як ніколі ўстае пытаньне аб вядучай ролі пролетарыяту ў адносінах вёскі.**

Рабочая кляса—організатар, які ажыцьцяўляе дыктатуру пролетарыяту, павінна цьвёрда весьці за сабой колгасьнікаў і працоўныя масы сёнешніх аднаасобнікаў, організуючы іх на барацьбу за пабудаваньне социялістычнага грамадзтва.

Асноўная задача пролетарскага кіраўніцтва колгаснай вёскай на даным этапе заключаецца ў тым, каб памагчы **перадавой, найбольш рэволюцыйнай частцы колгасьнікаў,** якія вызваліліся ад індывідуалістычных і кулацкіх перажыткаў, у яе барацьбе за колгас, за моцную працоўную дысцыпліну, у яе барацьбе супроць кулацкіх элемэнтаў, гультаёў, рвачоў, зладзеяў, **узначаліць** гэтую барацьбу перадавой часткі колгасьнікаў.

Апіраючыся на гэтую перадавую частку колгасьнікаў, на колгасны актыў, згуртоўваючы і выхоўваючы яго, рабочая кляса павінна весьці ўсю колгасную масу па шляху социялістычнага перавыхаваньня.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Рабочыя шэфскія організацыі— адна з асноўных форм пролетарскага ўзьдзеяньня на вёску. На даным этапе мы павінны ўзмацніць работу шэфскіх таварystваў, дабіцца, каб яны ігралі актыўную ролю ў ажыцьцяўленьні ўсіх мерапрыемстваў, праводзімых партыяй і ўрадам.

Між тым, за апошнія месяцы ў нас наглядалася яўная недаацэнка значэньня рабочага шэфства; у цэлым радзе організацый наглядалася яўнае паслабленьне шэфскай работы. Работа шэфскіх організацый па радзе фабрык і заводаў ня толькі не зрабіла кроку ўперад на парозе другой пяцігодкі, але нават зусім заглохла. У пэрыод загатовак выявілася, што цэлы рад шэфскіх організацый, у тым ліку 46 шэфкустоў Менску аказаліся якраз у ліку «спачыўшых на лаўрах», якія парашылі, што калі селянін пайшоў у колгасы, то тым самым ён стаў новым чалавекам і ня мае патрэбы ў далейшым перавыхаваньні, у сыстэматычным пролетарскім кіраўніцтве. Яны думаюць, што раз кулацтва ў асноўным ліквідавана як кляса, то вёска

ДЛЯ ЗАЎВАГ

сама будзе перабудоўвацца на сацыялістычных асновах.

Няма чаго і казаць, што такія настроі зьяўляюцца ня чым іншым, як **праваопортуністычнай спробай змазаць кіруючую ролю пролетарыяту** ў справе соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі.

Што «спачываць на лаўрах» рана, гэта з ўсёй наглядкасьцю паказалі ўрокі загатовак гэтага году на Украіне, на Паўночным Каўказе і ў самой Беларусі.

Загатоўкі ў 1932 г. прайшлі з большымі цяжкасьцямі, чым у 1931 г. У барацьбе за выкананьне загатоўчых плянаў нам прышлося прымяніць цэлы рад надзвычайных мер, аж да бойкотаваньня паасобных раёнаў і саветаў. Збожжавыя і іншыя загатоўкі паказалі, што рэшткі кулацтва і іншыя асколкі капіталістычных кляс не раззброіліся, што яны спрабуюць актыўна змагацца супроць колгасаў, партыі і савецкай улады. Кулак разгромлен, але далёка не дабіт. Ён ня ідзе ўжо адкрытым напорам супроць колгасаў, як у момант іх стварэньня, ён хаваецца ў цень і адтуль, часьцей за ўсё

праз сваіх людзей, чапляючыся за нязжытыя дробна-ўласьніцкія прывычкі колгасьнікаў, хоча павярнуць колгасныя справы на свой лад, **выхаласьціць з колгасаў іх соцыялістычнае нутро.** Ён лезе ва ўсе шчыліны і спрабуе перш за ўсё ўбіць клін паміж колгасамі і пролетарскай дзяржавай.

Мы ведаем, што **моц колгасу, як соцыялістычнага прадпрыемства, вызначаецца перш за ўсё дакладным выкананьнем ім сваіх абавязкаў перад дзяржавай**, бо ад выкананьня гэтых абавязкаў залежыць наш **агульна** дзяржаўны гаспадарчы плян, работа нашых фабрык і заводаў, ад чаго ў сваю чаргу залежыць далейшае ўмацаваньне колгасаў, якім патрэбны машыны, угнаеньне, прамтавары.

Іменна гэты вучастак узялі пад абстрэл рэшткі кулацтва ў загатоўчую кампанію 1932 г. Робячы стаўку на дробна-ўласьніцкія настроі адсталых колгасьнікаў і аднаасобнікаў, падштурхоўваючы колгасы на раздачу збожжа па руках, на раскраданьне збожжа, ільну **кулак і яго агентура здолелі організаваць саботаж** загатовак у па-

**асобных колгасах і саветах, што прывяло да адставаньня ў выкананьні пляну супроць намечаных тэрмінаў.**

Паўстае пытаньне, як магло здарыцца, што, маючы палавіну сялянства ў колгасах, паасобныя раёны і саветы дапусьцілі **самую магчымасьць** організацыі саботажу загатовак?

Прычыны такой зьявы ўказаны ў прамове т. **Сталіна.** Яны заключаюцца ў **ідэалізацыі** колгасаў, у прадстаўленьні справы **самацёку,** у няўменьні некаторых партыйных, савецкіх і грамадзкіх пролетарскіх організацый улічыць новую абстаноўку вёскі, перабудаваць фронт барацьбы з кулацтвам, **улічыўшы тактыку клясавага ворага, якая зьмянілася.**

Колгасны гандаль, які заключае ў сабе новыя багатыя магчымасьці ў справе разьвіцьця тавараабароту і ўмацаваньня народнай гаспадаркі, мае свае і адмоўныя бакі. Ён нясе з сабой спакусу для селяніна-аднаасобніка і колгасьніка — учарайшага аднаасобніка — прытрымаць збожжа, каб прадаць яго па рынавых цэнах, ня выка-

наць сваіх абавязкаў перад дзяржавай.

Каб перамагчы гэтую тэндэнцыю, усяляк разьвіваемую кулаком, партыйныя, савецкія і іншыя організацыі павінны былі **з самага пачатку** ўзмацніць кіраўніцтва загатоўкамі, па-бальшавіцку **організаваць** выкананьне колгасным і аднаасобным сэктарам іх абавязкаў перад дзяржавай.

Многія організацыі гэтага не зразумелі і з першых крокаў выпусьцілі кіраўніцтва са сваіх рук, а мы ведаем, што **«калі мы ня кіруем у тых або іншых колгасах, то гэта значыць, што імі кіруюць антысавецкія элемэнты»** (Сталін).

Толькі з вялікім спазьненьнем парторганізацыі Беларусі, перабудаваўшы пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б, узначальваемага т. Гікало, сваю работу, яе мэтоды, здолелі ўзяць кіраўніцтва загатоўкамі ў моцныя рукі і выправіць становішча, якое стварылася.

Нажаль, мы павінны тут з усёй бальшавіцкай праматой паставіць пытаньне аб тым, што **многія заводы і фабрыкі Беларусі, іх шэф-**

ДЛЯ ЗАЎВАГ

скія арганізацыі таксама паддаліся заспакаеньню і не аказалі своечасовай помачы вёсцы ў арганізацыі загатовак.

У адказны момант барацьбы партыі за ліквідацыю саботажу і адставаньне ў загатоўках, шэфарганізацыі раду гарадоў ня вытрымалі экзамену і асталіся ў баку.

Трывожным сыгналам зьяўляецца тое, што гэта глыбокая палітычная памылка не асазнана да гэтага часу цэлым радам таварышоў, якія адказваюць за гэтую справу.

Пададзім некалькі характэрных прыкладаў гэтай палітычнай блізарукасьці:

Завод **«Комунар»** (Менск) шэфствуе над Караліпічавіцкім саветам. У вясеньнюю пасеўную завод даў падшэфнаму савету свайго вылучэнца, рабочага заводу—Карповіча, на работу сакратара ячэйкі. Высунуўшы Карповіча, завод супакоіўся і палічыў, што яго місія ў адносінах падшэфных скончана—наш чалавек працуе, моў, там за нас. Як працуе Карповіч—гэтым ніхто ня цікавіўся. А між тым гэты гора-вылучэнец трапіў пад уплыў ксяндза і кулацкіх элемэн-

таў. Справа дайшла да таго, што жонка Карповіча адкрыта кіравала хорам у касьцёле, а Карповіч ня толькі не перашкаджаў гэтаму, але і сам актыўна памагаў ксяндзу і мясцовым кулакам організаваць саботаж збожжа-бульба-і інш. загатовак. У рэзультаце, загатоўкі ня выконвалі ня толькі аднаасобнікі і цэлы рад колгасаў, але і прыяцель Карповіча—сам старшыня савету разам з членамі савету. Шэфа гэта не непакоіла. Ён нават ня цікавіўся, як жыве падшэфны сельсавет. Аб шэфе, як гэта часта бывае, успомнілі толькі напярэдадні кастрычніцкіх сьвят. Тады выдзелілі брыгаду, на чале са старшынёй шэфкуста, і паслалі яе ў савет вітаць колгасьнікаў з XV-годзьдзем Кастрычніка. Праўда, сьвята было засмучана тым, што колгасьнікі паскардзіліся шэфам, што ў іх ня ўсё добра, што XV-годзьдзе яны сустракаюць з прарывамі, а іх вылучэнец Карповіч яўна гне ў бок кулака, а ня ў бок партыі і савецкай улады. Шэфы зрабілі гучныя прамовы, абяцалі памагчы справе, а потым паехалі і забылі. А між тым ста-

новішча савету станавілася ўсё горш, вораг наглеў пры апекаваньні савету і ячэйкі і хутка савет апынуўся на чорнай дошцы. Без «Комунара» выпраўлялі лінію ў Каралішчавіцкім савеце, без «Комунара» зьнялі іх вылучэнца і выключылі з партыі. І толькі, калі пры помачы брыгад, пасланых гаркомам партыі, сельсавет пачаў выпраўляць лінію і падыходзіў ужо да завяршэньня выкананьня плянаў,—што называецца да шапачнага разбору,—зьявілася брыгада з «Комунара».

Ці можна кваліфікаваць гэтыя адносіны да падшэфнага савету, інакш як опортуністычныя, ці ня выявілі тут заводзкія організацыі «Комунара» прамога прымірэнцтва да агентаў клясавага ворага?

Гэтай сваёй віны перад партыяй не зразумелі ні партком «Комунара» ні яго шэфтаварыства. У парткоме лічаць, што вінавата шэфтаварыства, якое не працавала. Старшыня шэфтаварыства т. Ноім заявіў, што ён пасьля прыезду з савету ў кастрычніцкія сьвяты «давёў да ведама» парткому аб падзеях у савеце,—значыцца

вінават партком, які ня ўжыў захадаў.

Нажаль, такія сугуба-бюрократычныя адносіны да шэфскай работы мы бачым ня толькі на «Комунары». Яны атрымалі даволі шырокае пашырэньне ў практыцы работы шэфтаварыстваў.

Калі 29 сьнежня, г. зн. у момант, калі ўся ўвага парторганізацыі Беларусі была сконцэнтравана на ліквідацыі прарыву па загатоўках, калі ЦК КП(б)Б кінуў у раёны ўвесь цэнтральны партактыў, на нарадзе шэфкустоў гораду Менску, скліканай агітмасавым аддзелам ЦК, выявілася, што пераважная большасьць шэфтаварыстваў ня толькі не аказалі ніякай помачы падшэфным у загатоўках, але нават і не пацікавіліся, як ідуць справы ў падшэфных саветах.

Так, т. Кавалёў—старшыня шэфкуста Хлебазаводу, падшэфны колгас якога знаходзіцца ўсяго ў 8 вярстах ад Менску па чыгунцы, заявіў, што яны ня ведаюць процанту выкананьня пляну іх колгасам, ды і ня могуць ведаць, таму што, калі-б яны пачалі разьяжджаць і даведвацца, хто як вы-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

конвае пляны, то ад гэтага пацярпела-б іх вытворчая програма (?).

Характэрна, што такая заява **Кавалёва** ня толькі ня сустрэла адпору з боку іншых старшынь шэфкустоў, але з боку многіх выклікала падтрымку. Пачуліся протэсты, чаму не папярэдзілі, што на нарадзе будуць патрэбны цыфры выкананьня плянаў падшэфнымі саветамі. «Калі-б папярэдзілі, мы даведаліся-б, у крайнім выпадку прачыталі-б у газэтах зводкі (?).

Няма чаго і казаць як далёкі гэтыя таварышы ад таго, каб ажыцьцявіць патрабаваньне т. Сталіна: **«ведаць усё, што адбываецца ў колгасах, каб у час прыйсьці на помач і папярэдзіць небясьпекі, якія пагражаюць колгасам».**

Яны ня толькі ня ведаюць ўсё тое, што адбываецца ў колгасах, але і ня лічаць патрэбным ведаць.

Усебеларуская радыёпераклічка, організаваная Агітмасавым аддзелам ЦК 8 студзеня, выявіла, што і іншыя гарады Беларусі не далёка адыйшлі ад Менску ў адносінах шэфскай работы. Тут тое-ж самабеззаспакаеньне і надзвычайная бесклапотнасьць. Зусім нездавальняю-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

ча пастаўлена работа ў **Віцебску, Магілеве.**



Падшэфны Вяліка-Велейскі савет буйнейшага прадпрыемства Магілеву — **шоўкавай** фабрыкі — да 22 сьнежня плёўся ў хвасьце па ўсіх відах загатовак. Фабрыка не аказвала савету ніякай помачы, і між тым сакратар ячэйкі т. **Крывулін** не адчувае за сабой віны. Тав. Крывулін у сваім паведамленьні ўказаў, што прычына адставаньня—пранікненьне клясавварожых элемэнтаў у ячэйку і сельсавет, але замоўчаў аб сваёй бязьдзейнасьці. Калі-ж яму было зададзена пытаньне, а ці ня лічаць сябе шэфы вінаватымі за тое, што праглядзелі гэтую засьмечанасьць кіруючых органаў савету, то быў дадзен вельмі нявыразны адказ: «магчыма, што і наша доля віны ёсьць». Як бачыце, т. **Крывулін** быў засьцігнут зьнянацку гэтым пытаньнем і сам для сябе яшчэ ня вырашыў, ці адказваюць шэфы за сваіх падшэфных.

Ня лепш справа абстаіць і на **Бабруйскім** дрэваапрацоўчым комбінаце, дзе толькі адзін беладрэўны цэх вядзе некаторую работу ў

падшэфным колгасе. Астатнія цэхі бязьдзейнічаюць. Ніякага кіраўніцтва шэфработай на комбінаце няма. Агітмас, які зьявіўся на пераклічку, нават ня мог сказаць, ці ёсьць у іх на заводзе кіраўнік шэфтаварыства.

Агітмас Бабруйскага РК партыі т. **Каралевіч,** аказваецца, таксама да гэтага часу ня цікавіўся шэфскай работай, і толькі, будучы выклікан на пераклічку, сабраў з заводаў некаторыя зьвесткі аб шэфскай рабоце. Ён ня мог назваць прозьвішча ні аднаго з кіраўнікоў шэфработы на якім-небудзь заводзе.

Аднак т. Каралевіч не адстае ад іншых і таксама не адчувае якой-небудзь аплошнасьці са свайго боку.

«Агітмас райкому,—заявіў ён,— зьвяртаў на шэфскую работу самую сур'ёзную ўвагу».

У чым-жа конкрэтна выражалася гэтая «ўвага»?

Аказваецца, «усім ячэйкам было ўказана на іх абавязак падцягнуць сваіх падшэфных».

Ячэйкі не паслухаліся агітмаса, а агітмас гэтага не заўважыў.



ДЛЯ ЗАЎВАГ

Тав. Каралевіч пацяшае сябе тым, што цяпер ён праўдзе «глыбокае абсьледваньне» шэфскай работы і даведаецца дакладна, хто чым займаецца, упускаючы з-пад увагі, што калі-б было забясьпечана штодзеннае опэратыўнае кіраўніцтва шэфорганізацыяй, то ня было-б патрэбы ні ў якіх глыбокіх абсьледваньнях, ды і прарыву-б ня было.

Некалькі лепш абстаіць справа з шэфствам на **барысаўскіх** прадпрыемствах.

Бярэзінскі комбінат шэфствуе над Корсанаўскім сельсаветам ужо тры гады. Ён дабіўся колектывізацыі савету на 75 проц. У часе загатоўчай кампаніі комбінат паслаў у свой савет 30 лепшых ударнікаў, якія памаглі савету выканаць плян па асноўных відах загатовак к 25 сьнежню.

Барысаўская фабрыка **«Комінтэрн»,** якая шэфствуе над Вярбінскім саветам, таксама здолела вывесьці яго ў лік перадавых па раёне. Шэсьць брыгад ударнікаў працавалі ў савеце ўвесь пэрыод загатовак. Савет датэрмінова вы-

канаў заданьні па ўсіх відах загатовак, за што і быў прэміяваны.

Якія асноўныя недахопы шэфскай работы, ускрытыя ў загатоўчай кампаніі 1932 г.?

Кідаецца ў вочы **параднасьць** у шэфскай рабоце, **формальны падыход** да справы.

Амаль кожная з шэфствуючых організацый, якая праспала загатоўкі ў сваім савеце, практыкуе выезды ў падшэфны савет **у вялікія сьвяты** і ўрачыстыя дні. Да падшэфных езьдзяць у госьці, іх запрашаюць да сябе на сумесныя ўрачыстыя паседжаньні і потым забываюць аб іх да наступнага сьвята.

Так абстаяла справа да гэтага часу на «Комінтэрне», фабрыцы «Кастрычнік», заводзе імя Варашылава (Менск), Гомсельмашы, шоўкавай фабрыцы і многіх іншых прадпрыемствах Беларусі.

Шэфства скрозь і ўсюды носіць **вярхушачны характар**, калі з падшэфнымі маюць зносіны толькі асобы, якія сядзяць у шэфтаварыстве, або, у лепшым выпадку, трыкутнік заводу, рабочая-ж маса часта ня толькі ня прымае ўдзелу ў

ДЛЯ ЗАЎВАГ

шэфстве, але і ня ведае, над кім шэфствуе іх завод. Аб гэтым сьведчаць хоць-бы цыфры членства ў шэфячэйках.

На заводзе **імя Ланцуцкага,** які ідзе па шэфстве далёка ня ў ліку апошніх, з 2 тыс. рабочых шэфская арганізацыя налічвае 250, на **Гомсельмашы**—каля 200 чалавек. На фабрыцы «Кастрычнік» (Менск), якая мае 1 500 рабочых, у шэфтаварыстве няма і 200 чалавек членаў.

У Менску наогул няма ніводнага заводу, дзе-б правялі ўжо перарэгістрацыю членаў. У сьпісах членаў шэфтаварыства лічацца «мёртвыя душы», якія самі даўно забыліся, калі і як яны трапілі ў гэтыя сьпісы. **Членскія ўзносы плацяць літаральна адзінкі,** ды іх даўно пакінулі і зьбіраць (Гомсельмаш, завод імя Ланцуцкага, «Пролетары», завод імя Варашылава, Бабруйскі дрэваапрацоўчы комбінат і інш.).

Паўнейшы опортунізм праявілі шэфскія організацыі ў адносінах **работы** са сваімі **рабочымі, зьвязанымі з вёскай.**

На радыёпераклічцы агітмас дрэваапрацоўчага Бабруйскага ком-

бінату адкрыта заявіў, што на заводзе ня ўлічаны рабочыя, зьвязаныя з вёскай, хоць такіх, бязумоўна, ёсьць вялікая колькасьць. У цэхах часам выпадкова выяўлялася, што некаторыя рабочыя, якія маюць сельскую гаспадарку, не хацелі выконваць сваіх абавязкаў перад дзяржавай. Па словах т. Яневіча, на сходах профгруп былі выпадкі, што ім указвалі на недапушчальнасьць такой зьявы, але што было потым, ці зразумеў рабочы сваю памылку, або ён так і ня здаў тое, што патрэбна было здаць па пляну,—гэтым ніхто больш ня цікавіўся.

На Магілеўскай шоўкавай фабрыцы вядома, што больш 1 000 рабочых маюць сваю сельскую гаспадарку, але як яны выканалі загатоўкі—гэтым ня цікавіліся ні партыйныя ні саюзныя органы.

«Як-жа мы можам гэта ўлічыць, калі мы ня ведаем, хто іменна мае гаспадарку»,—наіўна кажа ў сваё апраўданьне сакратар партячэйкі т. **Крывулін.**

Толькі адзін Гомсельмаш, ды і то ў сувязі з тым, што двух яго рабочых асудзілі на 3 і 4 гады, як

злосных няздатчыкаў, зацікавіўся, як выконваюць пляны рабочыя Гомсельмашу.

Выявілася, што недалёка ад гэтых двух рабочых адыйшлі і многія іншыя, якія цягнуліся па здачы збожжа, мяса і бульбы ў хвасьце ў колгасьнікаў, а часам і аднаасобнікаў.

Да такіх ганебных правалаў прывяла бязьдзейнасьць і палітычная блізарукасьць шэфскіх арганізацый.

Недаацэнка шэфскай работы заводзкімі, а часам і раённымі партыйнымі арганізацыямі, кажа аб тым, што вельмі многія з іх яшчэ не асазналі, што работа ў вёсцы, дзе мы маем на даным этапе складаны пераплёт клясавай барацьбы, павінна цяпер як ніколі знаходзіцца пад неаслабнай увагай партыйных арганізацый ня толькі вёскі, але і гораду. **Там, дзе няма штодзеннага ўплыву партыі, савецкай улады і пролетарыяту, становішча выкарыстоўвае кулак.** Гэта наглядна паказалі збожжа-ільна-і іншыя загатоўкі, у напружаны перыяд якіх шэфскія арганізацыі Беларусі не аказаліся на вышыні.

Опортуністычнае забыцьцё шэфскай работы павінна быць зломлена безадкладна самым рашучым чынам. Трэба, каб кожная партыйная ячэйка Менску, Гомелю, Магілеву, Віцебску і іншых гарадоў Беларусі праверыла ў сябе становішча шэфскай работы, **умацавала шэфскія арганізацыі моцнымі партыйнымі кадрамі** і безадкладна правяла-б у жыцьцё неабходныя мерапрыемствы па ўмацаваньні шэфскай работы.

Што трэба зрабіць конкрэтна?

Цяпер, калі колгасы і аднаасобная вёска Беларусі на паасобных вучастках яшчэ змагаюцца за завяршэньне плянаў ільну, бульбы і збожжазагатовак, шэфскія арганізацыі абавязаны безадкладна кінуць ім у помач лепшых, правераных комуністаў, комсамольцаў і ўдарнікаў, каб дабіцца стопроцантнага выкананьня плянаў у **кожным** колгасе, **кожным** колгасьнікам і аднаасобнікам, ня кажучы ўжо аб кулацка-заможнай частцы сяла.

Трэба зразумець раз і назаўсёды, што конкрэтнае опэратыўнае кіраўніцтва падшэфнай вёскай будзе забясьпечана толькі пры тэй

абавязковай умове, калі шэфы будуць **ведаць** свае падшэфныя колгасы (а ня вычытваць аб іх некаторыя зьвесткі з газэт), калі яны **вывучаць** іх экономіку, іх людзей, будуць поўнасьцю разьбірацца ў новай абстаноўцы, што склалася ў вёсцы. Гэта элемэнтарная прадпасылка, бяз гэтага нельга кіраваць.

Змагаючыся за падчыстку «хвастоў» па загатоўках, шэфскія організацыі павінны ўжо цяпер безадкладна пачаць самую сур'ёзную **работу па падрыхтоўцы да вясеньняй сяўбы.** Трэба забясьпечыць сваячасовую засыпку насеннага і фуражнага фонду і сваячасовае сартаваньне насеньня.

Зіма павінна стаць у кожным саўгасе, колгасе і двары кожнага аднаасобніка гарачым часам падрыхтоўкі інвэнтару да палявых работ.

Практычная помач вёсцы ў організацыі рамонту сельскагаспадарчага інвэнтару і машын набывае асобае значэньне ў рабоце шэфскіх організацый. У гэтых адносінах першы пачын ужо зрабілі машынабудаўнічыя заводы Беларусі,

Машынабудаўнічыя заводы, па пачыне заводу імя Варашылава, узялі вытворча-тэхнічнае шэфства над 9 машынатрактарнымі майстэрнямі Беларусі, якія знаходзяцца ў глыбокім прарыве (адрамантавана толькі 12 проц. трактараў). Так завод «Комунар» бярэ шэфства над Дзяржынскай МТМ, завод імя Варашылава над Слуцкай МТМ, Гомсельмаш над Рагачэўскай МТМ і т. д. Менш буйныя машынабудаўнічыя заводы бяруць шэфства над рамонтнымі майстэрнямі МТС бягучага рамонту.

Машынабудаўнічыя заводы ўзялі на сябе абавязацельства скласьці разам з падшэфнымі МТМ **плян рамонту** трактараў з тым, каб **узяць на сябе тую частку рамонту, якая ня можа быць зроблена сіламі самой МТМ.**

У сувязі з недахватам кваліфікаванай рабочай сілы, які выявіўся ў майстэрнях, у выніку чаго некаторыя МТМ, напрыклад Рагачэўская, ня могуць прыступіць да работы, машынабудаўнічыя заводы абавязаліся **выдзеліць майстэрням** на час рамонту нехапаючую **рабочую сілу,** а таксама частку лепшых

ударнікаў высунуць на **пастаянную работу** ў МТМ.

Машынабудаўнічыя заводы ўзялі на сябе выраб запасных частак, у якіх мае вострую патрэбу трактарны парк Беларусі і рад іншых абавязацельстваў.

Пачын машынабудаўнічых заводаў у справе арганізацыі рамонту да вясеньняй кампаніі павінен быць падхоплен усімі іншымі заводамі. Задачы рамонту далёка ня вычэрпваюцца толькі помаччу МТМ. Апрача МТМ рамонт ідзе ў майстэрнях бягучага рамонту пры МТС, а таксама проста ў кузьнях на сяле. Кожны завод разам з падшэфным саветам або колгасам павінен праправацаваць **конкрэтны плян свайго ўдзелу ў рамонце.** Шэфы могуць і павінны арганізаваць **рамонтныя брыгады,** паходныя майстэрні, выдзеліць на час рамонту **рабочую сілу ў майстэрні і кузьні,** забясьпечыць гэтыя кузьні **неабходным абсталяваньнем** і матэрыяламі за кошт лішкаў таго і другога, якія ёсьць на заводах. Усё гэта патрэбна зрабіць безадкладна ў парадку падрыхтоўкі да вясеньняй сяўбы.

Аднак гэтым далёка не вырашаюцца задачы вытворча-тэхнічнага шэфства, якое павінна быць пастаўлена ўсур'ёз і надоўга. Каб памагчы вёсцы асвоіць навейшую тэхніку, завяршыць соцыялістычную рэконструкцыю сельскай гаспадаркі, пролетарыят павінен прарабіць аграмадную работу па **падрыхтоўцы тэхнічных кадраў** з асяродзьдзя лепшых колгасьнікаў, якія маглі-б поўнасьцю асвоіць складаныя машыны, што ўсё ў большай і большай колькасьці паступаюць цяпер у вёску.

Кожны завод, які мае сваю тэхнічную базу, можа і павінен выдзеліць групу перадавых колгасьнікаў са свайго падшэфнага колгасу і **навучыць іх на сьлесара, токара, мэханіка,** з тым, каб ён змог потым працаваць на МТС.

Чарговым абавязкам шэфаў зьяўляецца **масавы ахоп колгасьнікаў** гурткамі па авалоданьні тэхнікай сельскагаспадарчых машын.

Гэтыя гурткі ў першы час павінны паставіць перад сабой хоць-бы прымітыўныя задачы—азнаёміць колгасьніка з будовай машыны,



ДЛЯ ЗАЎВАГ

навучыць яго абыходжаньню з ёй, прышчапіць яму любоў да машыны, дабіцца ад яго беражлівых адносін і належнага догляду за машынай і інвэнтаром.

Шэфорганізацыі абавязаны памагчы падшэфным **у складаньні пляну** вясеньняй сяўбы і давядзеньні яго да паасобных брыгад, павінны прыняць удзел у хутчэйшым сканчэньні **разьмеркаваньня даходаў** за мінулы 1932 г., даючы бязьлітасны адпор кулацкай ураўнілаўцы ў гэтай вобласьці. Для гэтай мэты ў падшэфныя колгасы неабходна накіраваць **спэцыяльныя брыгады,** у склад якіх павінны ўвайсьці плянавікі і рахункаводы.

Першачарговай задачай шэфорганізацый зьяўляецца ўцягненьне ў работу па падрыхтоўцы да вясны **рабочых, якія жывуць на сяле,** з тым, каб яны аказаліся ў гэтай справе перадавікамі. З ліку лепшых ударнікаў трэба выдзеліць арганізатараў па рабоце з рабочымі, якія жывуць на сяле, з тым, каб гэтыя арганізатары забясьпечылі вядучую ролю рабочага ў вясеньняй сяўбе.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Шэфтаварыства павінна трымаць пастаянную сувязь з гэтымі арганізатарамі, сыстэматычна заслухоўваючы іх справаздачы аб рабоце, правяраючы гэту работу на месцы.

Каб работа па шэфстве зноў ня вылілася ў форму парадкай шумíхі, як гэта мела месца за апошні пэрыод, яе трэба арганізаваць на базе сапраўднага **спаборніцтва**, паміж шэфкустамі і прадпрыемствамі.

Задача шэфкустоў і профсаюзных арганізацый—хуткае **перанясеньне добрых узораў** шэфскай работы з перадавых шэфскіх таварыстваў у адстаючыя.

Шэфскія арганізацыі здолеюць забясьпечыць сапраўднае пролетарскае кіраўніцтва вёскай толькі пры тэй умове, калі мы здолеем іх зрабіць арганізаваным, дысцыплінаваным, клясава-бояздольным ядром. Гэтага можна дасягнуць толькі тады, калі на чале шэфарганізацый будуць стаяць моцныя клясава-загартаваныя ўдарнікі - пролетары, якім будзе забясьпечана штодзенная помач і кіраўніцтва з боку парторганізацый.



ДЛЯ ЗАЎВАГ

Шэфорганізацыі павінны стаць сапраўдна масавымі організацыямі, у якія павінны быць уцягнуты **ўсе лепшыя сілы заводу**—ударнікі, гаспадарнікі, інжынэрна-тэхнічны пэрсонал.

Асаблівасьці пераживаемага намі пэрыоду, калі мы абавязаны **ў 10 разоў павялічыць** нашы намаганьні па організацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў, калі мы абавязаны **ўзмацніць** ў 10 разоў нашу работу па выкарчоўцы кулацкіх уплываў і дробнаўласьніцкіх навыкаў у колгасных масах, прад'яўляюць да шэфскіх організацый гэтыя павышаныя, але зусім абавязковыя і неадкладныя патрабаваньні.

Цяпер профсаюзы пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б намецілі разгорнутую і ўсебаковую програму помачы вёсцы па падрыхтоўцы да вясеньняй сяўбы.

Так, **саюз МТС і батрацтва** намячае ў ліку іншых мерапрыемстваў:

Да 5 лютага організаваць на МТС 59 гурткоў па аволоданьні тэхнікай машын з ахопам 1 200 чалавек, а ў колгасах 400 гурткоў па аволоданьні агротэхнікай з ахо-

пам 6000 чалавек колгаснага актыву.

На працягу лютага правесьці праверку і **пераатэстацыю трактарыстаў** з мэтай павышэньня іх кваліфікацыі.

Саюз **работнікаў асьветы** бярэ на сябе абавязацельства сіламі сваіх брыгад скласьці вытворча-фінансавы плян у 1500 колгасах.

Да 1 лютага організаваць 3000 гурткоў па авалоданьні аргозоотэхнікай і т. д.

**Саюз коопэрацыі і дзяржгандлю** абавязуецца:

Падрыхтаваць ня менш 600 кіраўнікоў для колгасаў.

Організаваць у пэрыод вясеньняй сяўбы ня менш 250 перасоўных ларкоў для падвозкі тавараў у колгасы.

Правесьці двухтыднёвік самаправеркі становішча грамадзкага харчаваньня ў саўгасах і МТС.

**Саюз чыгуначнікаў** абавязуецца сіламі сваіх брыгад адрамантаваць да 15 сакавіка ўвесь сельскагаспадарчы інвэнтар у 20 падшэфных колгасах і да 1 сакавіка скласьці ў іх вытворча-фінансавыя пляны.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

**Саюз дрэваапрацоўшчыкаў** пасылае брыгады для помачы падшэфным колгасам у рамонце транспорту.

**Саюз дзяржустаноў** бярэцца да 1 мая падрыхтаваць ня менш 300 чалавек колгаснага актыву па пытаньнях унутрыколгаснага і брыгаднага плянаваньня.

**Саюз друкароў** пасылае 10 выяздных рэдакцый па падрыхтоўцы вясеньняй кампаніі і 10 на пэрыод самой вясеньняй сяўбы.

**Саюз гарбарнікаў** пасылае ў аддаленыя раёны перасоўную шорную майстэрню для рамонту колгаснай збруі. З гэтай мэтай выяжджаюць 8 брыгад у падшэфныя колгасы.

Мы ўказалі тут толькі нязначную частку тых мерапрыемстваў, якія бярэ на сябе пролетарская грамадзкасьць перад вёскай у справе падрыхтоўкі да 4 бальшавіцкай вясны.

Усе гэтыя абавязацельствы могуць і павінны быць выкананы пры ўмове, калі мы здолеем хутка і рашуча перамагчы недаацэнку шэфскай работы, якая мае месца ў радзе організацый, даць адпор опор-

ДЛЯ ЗАЎВАГ